

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1992 МАЙ 14 Чацвер

№ 88 (273)

Цана 40 кап.


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

## РАСІЯ ТУТ НІ ПРЫ ЧЫМ

ПРАДСТАЎНІКІ Сойму Беларускага народнага фронту дапрацавалі тэкст заявы «Аб палітычным становішчы на абшарах былога СССР».

«За апошнія месяцы, — гаворыцца ў дакуменце, — у развіцці палітычнай сітуацыі ў краінах былога СССР выявіўся шэраг агульных рысаў. На хвалі абвастрэння міжнацыянальных зносінаў да ўлады вяртаюцца або спрабуюць вярнуцца тыя ж камуністычныя кіраўнікі, што былі пры ўладзе раней».

Далей канстатуецца: на Беларусі спроба канчатковага вяртання да ранейшых парадкаў была фактычна зроблена падчас апошняй сесіі Вярхоўнага Савета. Выказаны непакой з нагоды ўзмацнення шавіністычных сілаў у Расіі. «Дайшло і да таго, — ізноў цытуем тэкст заявы, — што ў час перамоваў аб вывадзе расійскіх войскаў з Літвы прадстаўнікі ўрадавай дэлегацыі Расійскай Федэрацыі ў якасці разменнай карты пачалі выкарыстоўваць тэрыторыю Віленскага края, што сведчыць аб поўным ігнараванні імі інтарэсаў Рэспублікі Беларусь».

У сувязі з гэтым Сойм БНФ заявіў:

1. БНФ заўсёды зыходзіў і зыходзіць з таго, што правы асобы і правы народа ўтвараюць непарыўнае адзінства, якое ёсць падмуркам сапраўднай дэмакратыі. Таму Сойм выказаў рашучую падтрымку ўсім дэмакратычным антыімперскім сілам.

2. Рэфарматарскі ўрад Расіі апынуўся перад выбарам: або зрабіцца заложнікам шавіністычных сілаў, або цывілізаваным шляхам, — напрыклад, праз рэферэндум, — намагчыся перамогі дэмакратыі.

3. Аналагічны выбар стаіць і перад беларускім народам, бо далейшае панаванне здрадніцкай кампартыйнай наменклатуры пагражае яму эканамічным крахам, стратай нядаўна набытай незалежнасці.

4. Праблемы, звязаныя з лёсам Віленскага края, могуць вырашацца толькі шляхам двухбаковых перамоваў паміж дэмакратычна абранымі ўрадамі Летувіскай Рэспублікі і Рэспублікі Беларусь, і з'яўляюцца прэрагатывай толькі гэтых дзяржаў.

## ПО КАРМАНУ ЛИ АРХИТЕКТУРА...

КАК сообщил на пресс-конференции главный архитектор Минска Я. Линевич, план застройки города, утвержденный Советом Министров до 2000 года, выполняется почти полностью.

Больше всего главного архитектора беспокоит вопрос территориального развития. Окрестные колхозы активно распродают сейчас земли под индивидуальное строительство. Впрочем, насытившись вдоволь жильем без отопления и горячей воды, раздосадованные новоселы уже шлют в горисполком депеши-жалобы. Архитекторами же разработан иной план обустройства пригорода. Так, в окрестностях Дроздов предполагается выстроить микрорайон Лебяжий, принципиально отличающийся от предшественников. 4—5-этажные домики, оригинальная планировка дворов, школа, построенная по принципиально новому проекту... Остается лишь позавидовать будущим счастливчикам-жильцам, да пожелать, чтобы строительство, которое предполагается начать в 1994 году, не затянулось на долгие годы. Деревни, окруженные великолепной зеленой зоной, сносить не станут — просто благоустроят и возведут коттеджи. Подобным образом уже осваивают Фаниполь, Заславль, Михановичи и Колодищи.

А что же микрорайоны-гиганты? В планах наконец реконструкция Новинок, но до сих пор не завершен проект обустройства Серебрянки. Пора менять отношение к культбыту, считает Я. Линевич, и опыт «спальных» районов наглядно это показал. В погоне за метрами жилой площади нередко находилась без особого внимания комфортность района. Быть может, поэтому в первоочередных планах продление существующих линий метро и строительство третьей.

Сложную экологическую обстановку города решено несколько смягчить выносом за пределы Минска, в Червень, радиаторного завода. Городской казне это будет стоить около миллиона рублей. А вот замучивший окрестных жителей старичок-аэропорт «Минск-1» к 1996 году просто будет снесен. Впрочем, в городе еще масса экологически вредных предприятий, в частности, 22 литейных производства...

Все это было бы сказочно здорово, если бы... не проблема денег. Любые, самые великолепные идеи останутся лишь на бумаге, если власти Минска не найдут способа залатать дырявый городской бюджет.

Сергей МАЛИНОВСКИЙ.

## В ЕДИНОМ РЕЖИМЕ

ЧТОБЫ покупатели не терялись в догадках, с которого часа работает тот или иной магазин, распоряжением Мингорисполкома установлен единый режим работы для непродовольственных магазинов — с 11.00 до 20.00, с перерывом на обед. В воскресенье — выходной, в субботу — рабочий день с 10.00 до 18.00, с перерывом.

Особый режим работы в ГУМе, ЦУМе «Минск», универмаге «Беларусь». ГУМ и универмаг «Беларусь» открываются с 9.30 и работают до 21.00 часа, в субботу и понедельник — с 10.00 до 18.00. В воскресенье — выходной. ЦУМ «Минск» в будние дни также работает с 9.30 до 21.00 часа. В субботу и воскресенье — выходные.

Магазины по продаже лесных и строительных материалов, а также комиссионные по субботам будут работать с 9.00 до 18.00, естественно, с перерывом на обед.

Режим продовольственных магазинов оставлен без изменений.

## МОВА ЯК СВАБОДА

ТАВАРЫСТВА беларускай мовы імя Францішка Скарыны сумесна з Камісіяй Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны арганізуе рэспубліканскую канферэнцыю «Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь».

Канферэнцыя пачнецца 15 мая ў Доме літаратара а гадзіне 10.30. Мяркуецца выслухаць асноўны даклад доктара гістарычных навук Леаніда Лыча на тэму «Дзяржава і мова. Мова і дзяржава», пасля чаго ўдзельнікі канферэнцыі выступяць у шырокай дыскусіі.

На грамадскі форум паклікаsuccessive прадстаўнікі ўрада: намеснік Старшыні Савета Міністраў Міхась Дзямчук, міністр інфармацыі Анатоль Бутэвіч, міністр адукацыі Віктар Гайсёнак, міністр культуры Яўген Вайтовіч. Запрошаны да актыўнага ўдзелу ў канферэнцыі таксама старшыні выканаўчых Саветаў рэгіянальных уладаў, рэктары вышэйшых навучальных устаноў Беларусі.

У той жа дзень запланавана пасяджэнне Рэспубліканскай рады, якая абмяркуе фінансава-гаспадарчую і выдавецкую дзейнасць таварыства.

Л. АЛЕЛЬКАВІЧ.

## ЧТО ПОЧЕМ?

ЦЕНЫ НА НЕКОТОРЫЕ ТОВАРЫ В МИНСКЕ ПО СОСТОЯНИЮ НА 13.05.92

| Наименование | Госторговля | Коммерческий магазин | Рынок |
|---|---|---|---|
| Куртка-пуховик | 1010 | 3700 | 3500 |
| Куртка джинсовая | 2000 (Польша) | 3300 (Турция) | 3100 |
| Свитер | 600 | 2500 (Турция) | 1200 |
| Джинсы | 750 (Польша) | 2900 (RIFLE) | 2300 |
| Сорочка мужская | 250 | 850 | 600—800 |
| Майка | 144 | 1800 (Кипр) | 600 |
| Сапоги женские | 4485 (Польша) | 3900 | 3000 |
| Туфли мужские | 370—500 | 2400 (Югослав.) | 2000 (Белвест) |
| Кроссовки | 1265 (Вьетнам) | 2950 (Турция) | 1500 (Турция) |
| Носки | 25 | 36 | 33 |
| Ремень | 50—80 | 250 (Брит.) | 150—180 |
| Бумажник | 156 | 400 | 130 |
| Зонт | 430 | 600 | 300—400 |
| Очки | 138 | 500 (Польша) | 500 (Польша) |
| Сигареты «Астра» | 9,76 | — | 10 |
| Шампанское | 150 | 200 | 170 |
| Свинина (1 кг) | 53 | — | 100 |
| Сало (1 кг) | 50 | — | 70 |
| Говядина (1 кг) | 50 | — | 90 |
| Яйца (1 дес.) | 16,80 | — | 30 |
| Курага | 96 | — | 100 |
| Чернослив | 62 | — | 60 |

## А ПАТРИОТОМ БЫТЬ—ОБЯЗАН!..

12 МАЯ состоялось заседание исполнительного совета Антикризисного комитета. Обсуждались структура комитета, вопросы координации совместных действий его членов. Были рассмотрены основные направления деятельности пропагандистской секции. В частности, решено создать фонд историко-патриотического воспитания, который финансировался бы участниками Антикризисного соглашения и занимался поддержкой акций патриотического воспитания в обществе. Принят проект заявления Антикризисного комитета, в котором предлагается заключить соглашение между государственными органами и общественными организациями о создании государственной идеологии, в центре которой — идея патриотизма.

Юрий ФИОЛЕТОВ.

## ОПЯТЬ УРОНИЛИ РТУТЬ

И ПРИ этом в приличном количестве — килограмма 1,5 весом, о чем сообщил представитель ГО г. Минска тов. В. Н. Барабанов. А потеряли ее в палисаднике возле пятиэтажки, которая находится по адресу Кедышко, 14. Нашли позавчера. Вчера же состоялось захоронение столь опасной находки на полигоне промышленных отходов. По данному факту ведется следствие.

Тамара МАРКИНА.

*Па паведамленнях агенцтваў БелаПАН, БелТА і ўласных карэспандэнтаў «ДВ».*

● НА СЕСІІ МІНГАРСАВЕТА

## КАРАБЕЛЬ АТРЫМАЎ ЧАРГОВУЮ ПРАБОІНУ. АЛЕ ПАКУЛЬ НА ПЛАВУ

АДРАЗУ спяшаюся папярэдзіць тых, хто яшчэ цікавіцца падзеямі, што адбываюцца ў сценах Мінскага гарадскога Савета — на сесіі ўчора нічога экстраардынарнага не адбылося. Звычайны працоўны дзень, адметны хіба што толькі сваім парадкавым нумарам — трынаццатым. Ды і вынік яго звычайны. І сумны. Бо раўняецца ён, па сутнасці, нулю. І гэта таксама прывычна, і таксама сумна.

Зрэшты, гэтаму ніхто ўжо не здзіўляецца: ні самі дэпутаты, падзеленыя на фракцыі, групоўкі, з рознымі амбіцыямі — ад абсалютна індыферэнтных асоб да гатовых спрачацца за кожную літару ў рашэнні аб перапынку; ні жыхары горада, якія ўспамінаюць пра гэтыя пасяджэнні, калі чытаюць нашу газету (прычым, пераважная іх частка абмінае такія матэрыялы). Надакучыла. І дэпутатам, і чытачам. І калі з другімі ўсё больш-менш ясна — для іх паказчык неабходнасці дэпутацкага корпуса вызначаецца наяўнасцю таннай кілбасы ў краме (і нічога, зрэшты, дзіўнага і ганебнага ў гэтым няма), то з прысутнымі ў зале — больш складана. Скажу прама, такі вывад не з'явіўся менавіта сёння і менавіта ў мяне пасля ўбачанага на сесіі. Пра гэта гавораць самі дэпутаты. А ім, як вы разумееце, лепш вядома. За два гады сумеснай працы, думаю, ужо загадзя вядома, што скажа той або іншы дэпутат: ці гэта будзе Мазго, Чэсак, Сарычаў, а мо Пугачоў, Панькоў, Чарнаморац, Мацяш... Я без усялякіх намёкаў нагадаў прозвішчы тых, хто часта з'яўляецца ля мікрафонаў, некаторых не назваў, але пры ўсёй іх разбежнасці ў думках, выказваннях, дзеяннях іх і аб'ядноўвае неабыякавасць, жаданне адстойваць сваё меркаванне. Але такіх людзей не вельмі шмат. «Маўклівая большасць», сярод якіх пераважаюць тыя, каму зусім усё роўна што вырашыць або не вырашыць Савет, пацягне «топіць карабель».

Я можа пасьпяшаўся, калі сказаў «топіць», многія упэўнены, што ўжо патапілі, але лічу, пакуль капітан на мосціку, трэба змагацца за выжыванне, а не заўчасна «хаваць».

Уласна кажучы, такою спробаю і было двухдзённае абмеркаванне на сесіі пытання аб эфектыўнасці работы Мінгарсавета. Колькі было спрэчак, прапаноў, абвінавачванняў і кпін (часам і некарэктных)! Да праекта пастановы прапанаваны быў альтэрнатыўны — дэпутата Стэльмаха, а потым індывідуальны—дэпутата Чэсака. Колькі ўпэўненасці ў неабходнасці рэарганізаваць работу гарсавета выказвалася, а потым... Нават за аснову ніводны праект не прынялі. Яшчэ раз паказалі сваю няздольнасць што-небудзь зрабіць. Як у роспачы сказаў старшыня Мінгарсавета Аляксандр Герасіменка: «Непрынцыповае ж пытанне — прыняць за аснову. Зноў прыклад канфрантацыі...»

Але аказалася, што гэта была не апошняя няўдача. Спроба намесніка старшыні гарсавета Анатоля Гурыновіча ўнесці змяненні ў парадак фарміравання Малога Савета (а рашэнне аб яго стварэнні было прынята яшчэ на VI сесіі) не толькі не дала выніку, а наогул прывяла да пытання аб неабходнасці існавання гэтага фарміравання.

Словам, гаварылі, гаварылі... і нічога. Трата часу. А пасля перапынку, пэўна, з-за бесперспектыўнасці свайго знаходжання на сесіі, частка дэпутатаў, як звычайна, знікла. Ізноў не стала кворуму. І тады стала наогул сумна. Чарговы тупік. А ці будзе калі выхад з яго? Сапраўды бермудскі трохвугольнік у чатырох сценах.

Іван КАХНОВІЧ («ДВ»).










● ДЕЛОВОЙ МИНСК

## МНОГООБЕЩАЮЩИЙ ЭФФЕКТ

В РЕСПУБЛИКАНСКОМ выставочном центре работает международная многопрофильная выставка «Эффект-92». «Фирмачи» предлагают нам различные качественные товары, оборудование.

Так, химико-фармацевтический завод «КРКА» из республики Словении может поставить в Беларусь более 60 наименований лекарств: сердечно-сосудистые, желудочно-кишечные, антибиотики, витамины, ветеринарные препараты. Может фирма порадовать нас парфюмерными и косметическими товарами. Кстати, она хорошо известна в странах СНГ, в которые поставляет свою продукцию более четверти века.

Минское рекламное агентство «Экспар» демонстрирует канцелярские товары из Германии, Италии, Австрии для офисов, осветительные приборы, школьно-письменные принадлежности.

Мечта каждого владельца приусадебного участка иметь таких «помощников», каких представила на выставке фирма «Агрострой Простейов» из ЧСФР. Надежные мини-трактора с дизайном на любой вкус, с простотой управления могут обрабатывать участки со сложным рельефом, перевозить грузы. Универсальные трактора могут работать с различным сельскохозяйственным инвентарем.

Предприятие «Монтас» города Градец Кралове относится к самым крупным и оснащенным организациям Европы, занимающимся монтажом оборудования для химической и пищевой промышленности. Эта фирма — достойный продолжатель лучших традиций всемирно известного завода «Шкода». В Чехо-Словакии и за рубежом предприятие зарекомендовало себя надежным партнером.

НА СНИМКАХ:
* Помогает рекламировать мини-трактора Юлия СКАЛАБОВА.
* У стенда фирмы «КРКА».
* Председатель фирмы «Монтас» Дмитрий ОСТАПЕНКО.
* Иван МУСИНСКИЙ и Ярослав КРЫКВИНЬСКИ представляют рекламное агентство «Экспар».

Текст и фото Юрия ЗАХАРОВА.










## ІНФАРМБЮРО

### КАЛЯНДАР

ВЯСНА. 135 ДЗЕНЬ ГОДА.

СОНЦА ўзышло ў 5.09, зойдзе ў 21.03. Даўжыня дня 15.54.

МЕСЯЦ — поўня (16 мая).

### ІМЯНІНЫ

СЕННЯ: Марыі, Саламеі, Тамары, Мацея, Сюзаны.

ЗАЎТРА: Барыса, Глеба, Зоі, Соф'і, Надзеі.

### НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Каб на агурках не было пустацвету, трэба садзіць іх увечары.

Не трэба сеяць пшаніцы, калі дзьме паўночны вецер.

Пасаджаную бульбу ў сухую пагоду трэба часцей абсыпаць.

Абірайце цвет на маладзенькіх яблынях і грушах, каб дрэўцы не трацілі на яго сілы.

### ЯК ПАВЕДАМІЎ ГІДРАМЕТЦЭНТР

СЕННЯ ў 11 гадзін у Мінску было 9 градусаў цяпла. Ціск 749 мм ртутнага слупа. Адносная вільготнасць — 80 працэнтаў. Вецер паўночна-заходні — 3—11 м/сек.

ЗАЎТРА ў Мінску чакаецца пераменная воблачнасць, без ападкаў. Тэмпература паветра ноччу — 1—3, днём — 14—16 градусаў цяпла.

● SOS

## ПРИЗРАК ДИФТЕРИИ— В ГОРОДЕ

МИНСКУ угрожает дифтерия. Рост этого заболевания увеличился в 4,9 раза по сравнению с I кварталом 1991 года. У детей и подростков значительно снизился уровень защищенности (более чем у 10 процентов обследованных отсутствует иммунитет). Многие родители отказываются прививать своих детей, боясь осложнений. Кроме того, нередко нарушаются сроки профилактических прививок.

Кстати, от прививок от дифтерии отказываются и взрослые (привито менее половины взрослого населения).

А ведь дифтерия — это острое, иногда опасное для жизни человека инфекционное заболевание. Учитывая это, главным государственным санитарным врачом города В. М. Челновым принято соответствующее решение.

Оно предусматривает ряд профилактических и противоэпидемических мероприятий по предупреждению эпидемического распространения дифтерии в нашем городе. В числе важнейших — проведение максимальному числу детей прививок против дифтерии в установленные сроки АКДС-вакциной АСС-М-анатоксинами. Немаловажно прививание взрослых, относящихся к группам повышенного риска: лиц, проживающих в общежитиях, работников сферы обслуживания, студентов и сотрудников специальных средних и высших учебных заведений, учителей, работников детских дошкольных учреждений. Бактериологическому обследованию на дифтерию подлежат все больные ангинами в первый же день обращения.

ГорСЭС не рекомендует отказываться от прививок: слишком уж опасная эта болезнь — дифтерия!

Тамара МАРКИНА.

## КРИМИНАЛ-СЛУЖБА «ДВ»

### «СОИСКАТЕЛИ» УЖЕ «НА МУШКЕ»

УЧАСТИВШИЕСЯ кражи консервированных овощей и фруктов из подвалов и сараев горожан, похоже, стали одним из очередных ярких проявлений сегодняшнего дня. Подобные сообщения фигурируют в оперативных сводках УВД уже почти ежедневно. Вот и на этот раз (в ночь на 12 мая) из подвала пенсионерки Т. в доме по улице Долгобродской украдено 70 банок припасов.

Кстати, в этот же день сотрудники милиции установили очередную «подвальную» группу и задержали одного из ее членов. Остальные «ассистенты», похоже, будут задержаны на днях.

### «А МОЖЕТ БЫТЬ, Я СТАНУ ОТВАЖНЫМ НАРКОМАНОМ»...

В ПОЛДЕНЬ 12 мая в одной из квартир по улице Ольшевского, в предвкушении удовольствия от «общения» с маковой соломкой, уютно расположилась четверка наркоманов. (Впрочем, можно ли назвать их таковыми — покажет обследование). Уж кого-кого, а внезапного появления сотрудников городского Управления уголовного розыска и Фрунзенского РОВД не ожидал никто. Первое, бросившееся в глаза сыщикам,—шприцы, посуда, килограмм зелья.

Все задержанные помещены в психбольницу. Никто из них до момента задержания нигде не работал, возраст — от 22 до 28 лет.

### КУРИТЬ В ПОСТЕЛИ — БЫТЬ ПОЖАРУ!

ЕЩЕ ОДИН минчанин пострадал от своей привычки курить в постели после выпивки. Это 39-летний С., получивший в результате 37-процентный ожог тела.

Кстати, в нынешнем году по вине пьяных произошло уже 25 пожаров (за аналогичный период прошлого года — 17). Больше всего чиркающих спичками и прикуривающих в постели выявлено во Фрунзенском, Заводском и Московском районах.

### У КАЖДОГО СВОЙ ДОЛГ...

ЗА СУТКИ, наряду с 8 преступлениями, раскрытыми по «горячим следам», работники городской милиции раскрыли сразу восемь преступлений, совершенных в прежние годы.

В феврале прошлого года неизвестный негодяй ограбил женщину в комнате общежития по улице Бобруйской. Видимо, надеялся, что не найдут. Мог ли он подумать, что зарешеченный милицейский «уазик» приедет за ним через год с небольшим!

В отличие от задержанного, который является референтом хозрасчетного объединения «Долг» (прошу не путать с объединением «Долг» при МВД РБ, помогающим семьям погибших милиционеров!), сотрудники Октябрьского РОВД свой долг выполнили до конца, все же «распутав» очередной «клубок».

### ПОЗВОНИЛ ВОВРЕМЯ

13 мая в 3 часа ночи пьяный рабочий СУ-10 четвертого стройтреста Ш. и не менее «накаченный» ранее судимый З. разбили оконное стекло первого этажа здания Фрунзенского райисполкома. Осуществить свой замысел чем-либо поживиться не удалось — исполкомовский сторож вовремя позвонил в милицию.

Сергей РАЧИЛА (УВД Мингорисполкома).

● СПОРТ

## УЛАДЗІМІР МЯДЗВЕДЗЕЎ — УЛАДАЛЬНІК ПРЫЗА «ДОБРАГА ВЕЧАРА»

Як вы, напэўна, памятаеце, напярэдадні першынства наша рэдакцыя заснавала прыз для футбаліста, які заб'е самы першы гол у турніры.

Гэтым самым мы, праўда, свядома ставілі футбалістаў у няроўныя ўмовы: бо матчы пачыналіся ў розны час, а значыць, шансы многіх пры гэтым станавіліся роўнымі нулю.

Раней за іншых у гэты дзень, 18 красавіка, пачыналі салігорскі «Шахцёр» з СКБ-«Лакаматывам», мінскае «Тарпеда» з «Будаўніком» і «Ведрыч» з «Гомсельмашам». І, пэўна, тут трэба было чакаць нашага «героя». Зрэшты, так і здарылася.

Ужо ў першых таймах мінскай і салігорскай сустрэч першыя галы былі забіты. Прычым, амаль у адзін час — ледзь не мінута ў мінуту. У Мінску на 25-й вызначыўся паўабаронца старадарожскага «Будаўніка» Уладзімір Мядзведзеў, а ў Салігорску нападаючы «Шахцёра» Андрэй Рапейка — на 26-й.

Здавалася б, усё ясна, аднак, на ўсялякі выпадак, мы ўдакладнілі: можа дзе пачатак гульні затрымаўся — усё ж такі першыя гульні, адкрыццё сезона—аднак аказалася, што папраўкі ўносіць не трэба. Гол Уладзіміра Мядзведзева — сапраўды першы ў сёлетнім чэмпіянаце.

Вось як ён быў забіты: нападаючы старадарожцаў Віталь Тараканаў у адзінаборстве з тарпедаўцам Станіславам Зіньковічам быў спынены недазволеным прыёмам. Суддзя з Брэста Сяргей Шмолік без ваганняў паказаў на адзінаццаціметровую адзнаку. Удар лепшага бамбардзіра «Будаўніка» Уладзіміра Мядзведзева быў дакладным, і адчайны кідок варатара тарпедаўцаў Эдуарда Тучынскага не дапамог — гол.

Самае цікавае, што ў памянёнай салігорскай гульні таксама быў прызначаны пенальці, прычым яшчэ раней, на 21-й мінуце. Аднак капітан «Шахцёра» Уладзімір Каваленя прабіў яго вельмі няўдала — мяч прайшоў міма варот.

А цяпер некалькі слоў пра Уладзіміра Мядзведзева. Нарадзіўся ў 1970 годзе. Рост 176 см, вага 78 кг. За старадарожскі «Будаўнік» гуляе з 1990 года, да гэтага выступаў за «Працоўныя рэзервы» (Адлер).

Па амплуа Уладзімір — апорны паўабаронца. Тэхнічны, з ударам, добра бачыць поле, можа ўзяць гульню на сябе.

Зрэшты, 10 чэрвеня вы зможаце самі ўпэўніцца ў высокіх гульнёвых вартасцях іграка «Будаўніка», бо менавіта ў гэты дзень у Мінску старадарожцы будуць гуляць з «Дынама». Тады і будзе яму ўручаны наш прыз.

● ЭКАНОМІКА І ЎЛАДА

# І ЎСЕ ЗВЯРЫ НА ДАПАМОГУ

## ДРУГАЯ СПРОБА АБАРАНІЦЬ БЕЛАРУСКІ РЫНАК

**Аднаразовы купон нічым сябе не праявіў і сканаў на радасць працаўніцам прылаўка, якія настрыгліся гэтых купонаў аж да крывавых мазалёў на руках. Але, адыходзячы ў гісторыю, ён перадаў сваю надзвычай важную функцыю абароны спажывецкага рынку свайму праваправаемніку — купону шматразоваму.**

ШМАТРАЗОВЫ купон— гэта вам не жартачкі, без малога ўласныя грошы, папярэднік нацыянальнай валюты, запэўніваюць усіх нас у чарговы раз мясцовыя банкіры, фінансісты-эканамісты. Так, гэта навінка для нас. Але для суседзяў на поўначы і поўдні такая паперка — ужо пройдзены этап. І ў Літве, і на Украіне як гучна іх уводзілі, так ціхенька з імі і мадзеюць зараз. І ўмовы ў іх былі больш спрыяльныя: не было такой інфляцыі, дэфіцыту наяўных грошай, разбурэння сувязей. Беларусь ідзе за імі крок у крок, нават сюжэты малюнкаў на купонах вельмі падобныя на «вагнэркі».

А можа, і праўда: зайчык за вавёрачку, ваўчок за зайчыка, мядзведзь за ваўка — цягнуць-пацягнуць і выцягнуць рэспубліку з крызісу. Ці здолеюць гэта зрабіць звяры нашых лясоў? А можа, паклічам на дапамогу (з улікам інфляцыі) больш буйных звяроў — бегемота, слана, блакітнага кіта?

Наш купон толькі дазваляе траціць рублі на тэрыторыі суверэннай Беларусі (для даляроў, фунтаў, марак і іншых валют такога дазволу не патрабуецца). І вельмі праблематычна яго пераўвасабленне ў паралельныя грошы, а потым і ў нацыянальную валюту. Існуе шмат цудоўных тэорый у крэдытна-фінансавай галіне. А на практыцы толькі паўтарадва дзесяткі краін свету могуць пахваліцца стабільна ўстойлівай валютай, адсутнасцю праблем з бюджэтам, пазыкамі, інфляцыяй. Шлях гэтых краін быў вельмі доўгі. А нам зараз прыйдзецца даганяць. Прычым рабіць гэта трэба па-свойму, але максімальна ўлічваючы агульныя заканамернасці развіцця іншых краін. Яны ж сведчаць: грошы ўвесці куды лягчэй, чым потым падтрымліваць іх на прыстойным узроўні, прымушаць выконваць усе функцыі, у тым ліку і абмен на грошы іншых дзяржаў.

О, гэта славутае пытанне канверсуемасці рубля! Колькі паперы патрацілі эканамісты, журналісты, палітыкі і іншыя на артыкулы аб тым, як яе дасягнуць і што для гэтага рабіць. Між тым, поўная канверсуемасць рубля, як і іншай грашовай адзінкі, не самамэта, а толькі важны момант інтэграцыі ў сусветную эканоміку. І патрабуе яна яшчэ ўліку шматлікіх момантаў, дастаткова ўжо абмеркаваных ў друку.

У адносінах да талера такіх момантаў чатыры. Па-першае, — яго залатое забеспячэнне. Калі знешнюю запазычанасць былога СССР яго нашчадкі былі вымушаны хуценька падзяліць, то залаты запас і каштоўныя камяні былой агульнай краіны толькі зацятыя аптымісты ў смелых летуценнях бачаць падзеленымі па справядлівасці паміж былымі рэспублікамі. Па-другое, — валютныя запасы дзяржавы. Збанкрутаваўся Знешэканомбанк СССР. Яго правапераемнік — Расзнешгандальбанк абяцае аддаць валюту беларускіх прадпрыемстваў праз 3—4 гады, гэта значыць, недзе пасля дожджычку ў чацвер.

Але колькі б не забірала суверэнная Рэспубліка Беларусь валюты з заробленага прадпрыемствамі, думае дзяржава перш за ўсё, як неяк звесці канцы з канцамі, а не пра нейкую там канверсуемасць.

Тут мы перайшлі да трэцяга, экспартнага патэнцыялу рэспублікі, здольнасці народнай гаспадаркі зарабляць дастатковую колькасць валюты на бягучыя патрэбы і на запас для свабоднага абмену талера на іншыя валюты. Пералік экспартных тавараў даволі-такі значны, але фізічныя аб'ёмы экспарту і цэны не даюць падстаў для вялікага аптымізму. Другі бок знешняга гандлю — імпарт. Без замежнай сыравіны, запчастак, камплектуючых, якія купляюць за валюту, могуць спыніцца шмат якія вытворчасці ў рэспубліцы. Так што не да жыру — быць бы жыву...

Нарэшце, чацвёртае — знешняя запазычанасць, яе абслугоўванне, фінансавыя абавязкі перад міжнароднымі супольніцтвамі, фондамі. Гэты пасіў у дакладных лічбах у друку не прыводзіўся. Калі імкнуцца да канверсуемасці талера, прыйдзецца браць вялікую пазыку (пад што?) для стварэння яго стабілізацыйнага фонду, падтрымання курса. Памеры гэтай пазыкі сёння цяжка нават і падлічыць.

І, напэўна, галоўнае. Усе гэтыя моманты маюць толькі абстрактную цікавасць. Цвёрда заяўлена, што пры ўсіх абставінах рэспубліка застанецца ў рублёвай зоне. Гэта значыць, што недзе зноў праз год, як суседзі ўвядуць уласныя грошы, гэта будзе вымушана зрабіць і Беларусь. Але падрыхтавацца зноў не хопіць часу. Не, канцэпцыя існуе, але ўсур'ёз не абмяркоўвалася, не рабілася ніякіх захадаў. Здавалася б, і няхай нават справа не дойдзе да пераўтварэння ў жыццё, але лепш быць падрыхтаванымі і да такога развіцця падзей, чым потым «з ліста» спрабаваць зрабіць нешта прыстойнае. Пакуль што да нас толькі ўпарта даводзяць, што ўласныя грошы— гэта дрэнна і дорага, а мы зараз такія бедныя, што нават не маем грошай, каб надрукаваць уласныя грошы.

Купоны таксама небясплатныя, як аднаразовыя, так і шматразовыя. Вельмі хацелася б пачуць, колькі каштавала друкаванне і выкарыстанне аднаразовых паперак, з якімі мы зараз так ціха развітваемся. Што яны далі дзяржаве? А калі нічога не далі — то хто за няўдалы эксперымент адкажа?

Імкліва бяжыць час, некалі вяртацца да былых падзей, бо трэба спяшацца ўводзіць шматразовыя купоны. Толькі хто гарантуе, што і яны не з'явяцца чарговай хімерай. І не адкажа таварыш пры пасадзе. Вось выйдзе ён на пенсію, пачне пісаць успаміны, можа, тады і прызнае, што памыліліся. Толькі нас гэта зараз цікавіць...

Застанецца ў калекцыянераў як памяць і стос каляровых паперак з прыгожымі малюнкамі звяроў, своеасаблівыя ілюстрацыі да падручніка заалогіі ці Чырвонай кнігі. А магчыма, і да падручніка эканомікі, як яскравы прыклад удалай спробы павярнуць неспрыяльны ход падзей у лепшы бок? Хацелася б у гэта верыць, але няма ўжо веры нікому і ні ў чым. Пэўна, зноў завядуць у тупік і кінуць з абяцаннямі, як ужо было не раз. Яшчэ добра памятаем усе абяцанкі, а спытаць аб іх выкананні ўжо няма з каго.

Можа, нарэшце, нехта адкажа за купоны?

Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ.

**Государственный комитет Республики Беларусь по труду и социальной защите населения**
**Министерство финансов Республики Беларусь**

**Постановление от 7 мая 1992 г.**
**№ 21/444 г. Минск**

# О РАЗМЕРАХ ГОСУДАРСТВЕННЫХ ПОСОБИЙ СЕМЬЯМ, ВОСПИТЫВАЮЩИМ ДЕТЕЙ

Во исполнение постановления Совета Министров Республики Беларусь от 6 мая 1992 г. № 255 Государственный комитет Республики Беларусь по труду и социальной защите населения и Министерство финансов Республики Беларусь ПОСТАНОВЛЯЮТ:

1. Утвердить и ввести с 1 мая 1992 года новые размеры пособий семьям, воспитывающим детей.

Единовременные пособия:

1.1. 2000 рублей — пособие при рождении ребенка (в случае рождения двух и более детей пособие выплачивается на каждого ребенка);

1.2. 1000 рублей — пособие женщине, родившей ребенка, которая стала на учет в женской консультации до 12-недельного срока беременности.

Ежемесячные пособия:

1.3. 1200 рублей — находящимся в отпуске по уходу за ребенком до достижения им возраста трех лет работающим матери или отцу, либо другому родственнику, усыновителю (опекуну), а также неработающим женщинам, имеющим детей в возрасте до 3 лет;

1.4. 1500 рублей — находящимся в отпуске по уходу за ребенком до достижения им возраста 3 лет, а также неработающим, имеющим ребенка этого же возраста, одиноким матерям, разведенным мужчинам и женщинам, если один из родителей уклоняется от уплаты алиментов, либо в других случаях, предусмотренных законодательством, когда взыскание алиментов невозможно;

1.5. 1800 рублей — находящимся в отпуске по уходу за ребенком до достижения им возраста 3 лет, а также неработающим, имеющим ребенка этого же возраста одиноким матерям из числа детей-сирот — бывших воспитанников детских домов (школ-интернатов), женам военнослужащих срочной службы;

1.6. Если во время отпуска по уходу за ребенком до достижения им возраста 3 лет рождается следующий ребенок, то за период предоставляемого женщине отпуска по беременности и родам пособие на первого ребенка выплачивается в полном размере.

По желанию лиц, находящихся в отпуске по уходу за ребенком до достижения им возраста 3 лет, они могут работать на условиях неполного рабочего времени (не более половины месячной нормы) или на дому. При этом за ними сохраняется право на получение пособия в полном размере.

В случае прерывания отпуска по уходу за ребенком в возрасте до 3 лет в связи с выходом на полный рабочий день или на условиях неполного рабочего времени (более половины месячной нормы), а также при оформлении ребенка в детское дошкольное учреждение, установленное пособие по уходу за ребенком выплачивается в размере 50 процентов.

Женщины, находящиеся в отпуске по уходу за ребенком и одновременно продолжающие учебу в профессионально-технических, средних специальных и высших учебных заведениях с отрывом от производства, имеют право на получение стипендии и пособия в полном размере.

Женщинам, работающим на территории Беларуси, но проживающим с семьей за ее пределами, пособия на детей назначаются и выплачиваются только в случае нахождения женщин в отпуске по уходу за ребенком до достижения им возраста 3 лет.

1.7. 500 рублей — семьям, воспитывающим детей в возрасте от 3 до 6 лет;

1.8. 625 рублей — семьям одиноких матерей, разведенных мужчин и женщин, если один из родителей уклоняется от уплаты алиментов, либо в других случаях, предусмотренных законодательством, когда взыскание алиментов невозможно, воспитывающим детей в возрасте от 3 до 6 лет;

1.9. 750 рублей — семьям одиноких матерей из числа детей-сирот — бывших воспитанников детских домов (школ-интернатов), а также семьям военнослужащих срочной службы, воспитывающим детей в возрасте от 3 до 6 лет;

1.10. 600 рублей — семьям, воспитывающим детей в возрасте от 6 до 13 лет;

1.11. 750 рублей — семьям одиноких матерей, разведенных мужчин и женщин, если один из родителей уклоняется от уплаты алиментов, либо в других случаях, предусмотренных законодательством, когда взыскание алиментов невозможно, воспитывающим детей в возрасте от 6 до 13 лет;

1.12. 900 рублей — семьям одиноких матерей из числа детей-сирот — бывших воспитанников детских домов (школ-интернатов), а также семьям военнослужащих срочной службы, воспитывающим детей в возрасте от 6 до 13 лет;

1.13. 700 рублей — семьям, воспитывающим детей в возрасте от 13 до 16 лет (учащихся дневных общеобразовательных школ, гимназий, лицеев до их окончания, а также учащихся, обучающихся за счет собственных средств в высших, средних специальных учебных заведениях и на курсах, работающих по режиму учебных заведений в дневное время, и не получающих стипендий — до 18 лет);

1.14. 875 рублей — семьям одиноких матерей, разведенных мужчин и женщин, если один из родителей уклоняется от уплаты алиментов, либо в других случаях, предусмотренных законодательством, когда взыскание алиментов невозможно, воспитывающим детей в возрасте от 13 до 16 лет (учащихся дневных общеобразовательных школ, гимназий, лицеев до их окончания, а также учащихся, обучающихся за счет собственных средств в высших, средних специальных учебных заведениях и на курсах, работающих по режиму учебных заведений в дневное время, и не получающих стипендий,— до 18 лет);

1.15. 1050 рублей—семьям одиноких матерей из числа детей-сирот —бывших воспитанников детских домов (школ-интернатов), а также семьям военнослужащих срочной службы, воспитывающим детей в возрасте от 13 до 16 лет (учащихся дневных общеобразовательных школ, гимназий, лицеев до их окончания, а также учащихся, обучающихся за счет собственных средств в высших, средних специальных учебных заведениях и на курсах, работающих по режиму учебных заведений в дневное время, и не получающих стипендий,— до 18 лет);

1.16. Пособия на детей в возрасте от 3 до 18 лет с 1 мая 1992 г. назначаются и выплачиваются семьям в полном объеме при условии, что совокупный доход на члена семьи за первый квартал данного года не превышает двухкратного размера минимальной заработной платы и в размере 50 процентов — при условии, что совокупный доход на члена семьи не превышает трехкратного размера минимальной заработной платы.

При назначении пособий на детей на май—декабрь 1992 г. для исчисления совокупного дохода на члена семьи за 1 квартал с. г. применяется минимальная заработная плата в размере 550 рублей.

1.17. Пособия семьям, воспитывающим детей в возрасте от 3 до 16 лет (учащихся дневных общеобразовательных школ, гимназий, лицеев, а также учащихся, обучающихся за счет собственных средств в высших, средних специальных учебных заведениях и на курсах, и не получающих стипендий,—до 18 лет), в случае, если оба трудоспособных родителя не работают, не учатся и не зарегистрированы в государственной службе занятости в качестве безработных с назначением пособия по безработице, не назначаются и не выплачиваются.

Вопросы, связанные с выплатой пособий на детей гражданам, временно потерявшим работу по не зависящим от них причинам и не зарегистрированным в государственной службе занятости, рассматриваются и решаются исполкомами местных Советов народных депутатов.

Семьям, воспитывающим детей в возрасте до 16 лет, обучающихся в профессионально-технических и средних специальных учебных заведениях, а также работающих подростков, государственные пособия не назначаются и не выплачиваются при условии получения этими детьми стипендии или заработной платы.

1.18. 500 рублей — пособие неработающим и не получающим пенсий лицам по уходу за инвалидом 1 группы, за ребенком-инвалидом в возрасте до 16 лет, а также престарелым, достигшим 80-летнего возраста;

1.19. 1500 рублей — пособие на детей в возрасте до 16 лет, инфицированных вирусом иммунодефицита человека или больных СПИДом.

2. На детей, находящихся под опекой (попечительством) в семьях, не имеющих статуса опекунских (приемных) семей и не получающих ежемесячных выплат на содержание опекаемых, в соответствии с постановлением Верховного Совета Республики Беларусь от 5.02.1991 г., пособия, предусмотренные настоящим постановлением, выплачиваются опекуну органами народного образования.

3. Пособия на детей старше 16 лет, окончивших дневные общеобразовательные школы, дополнительно выплачиваются в год окончания школы за июль, а на детей, продолживших обучение в профессионально-технических, средних специальных и высших учебных заведениях,— за август;

4. Выплаты пособий на детей, установленных пунктами 1—3 настоящего постановления, производить по месту основной работы (учебы, службы) матери, а в случае, если мать не работает — по месту основной работы (учебы, службы) отца или лиц, заменяющих родителей. В иных случаях пособия выплачиваются в органах социального обеспечения или народного образования по месту постоянного жительства родителя с ребенком, либо лиц, заменяющих родителей.

Пособия на детей назначаются и выплачиваются органами социального обеспечения по месту жительства:

— неработающим женщинам, постоянно проживающим с детьми в Беларуси, в случае, если их мужья работают за пределами республики;

— неработающим родителям трудоспособного возраста, зарегистрированным в качестве безработных с получением пособия по безработице в государственной службе занятости;

— неработающим пенсионерам, а также неработающим и не получающим пенсий лицам, осуществляющим уход за инвалидом 1 группы, ребенком-инвалидом в возрасте до 16 лет или престарелым, достигшим 80-летнего возраста;

— родителям, занимающимся индивидуальной трудовой деятельностью;

— неработающим женам священнослужителей.

Женщинам, работающим на предприятиях, в организациях, расположенных на территории Республики Беларусь, но не находящихся под ее юрисдикцией, пособие на детей назначается и выплачивается по месту работы мужа (если предприятие находится под юрисдикцией республики), а при его отсутствии — в органах социального обеспечения по месту жительства. При этом факт неполучения пособия на детей по месту работы матери должен подтверждаться справкой предприятия.

Пособия семьям неработающих пенсионеров Министерства обороны, Министерства внутренних дел, Комитета государственной безопасности, воспитывающим детей, в случае, если жена (муж) пенсионера не работает и не учится, назначаются и выплачиваются подразделениями этих министерств по месту нахождения пенсионных дел.

Выплата пособий на детей, назначенных исполкомом местных Советов народных депутатов, гражданам, временно потерявшим работу по не зависящим от них причинам, а также из числа неполных семей, осуществляющим уход за детьми в возрасте до 8 лет и не зарегистрированным в государственной службе занятости, производится органами социального обеспечения.

5. Признать утратившим силу постановление Государственного комитета по труду и социальной защите населения и Министерства финансов Республики Беларусь от 19 марта 1991 г. № 10/265.

**Председатель Государственного комитета Республики Беларусь по труду и социальной защите населения Г. П. БАДЕЙ**

**Министр финансов Республики Беларусь С. П. ЯНЧУК**

**Государственный комитет РБ по экономике и планированию**

● ФАКТ




**Первый в республике государственный ломбард открылся по проспекту Рокоссовского в Минске. Он создан при фирме «Радуга» управления бытового обслуживания горисполкома.**

**Если у вас материальные затруднения, если вы, уезжая в отпуск или длительную командировку, не знаете, где оставить на хранение ценные вещи, — ломбард к вашим услугам. Сюда можно сдать сложную бытовую технику, изделия из драгоценных металлов и другие ценные вещи. Невостребованные в срок, они будут реализованы.**

**Фото Валерия АЛЕШКЕВИЧА (БелТА).**

● ПОРТРЕТ НА ФОНЕ ПЕРЕМЕН

# «ВМЕСТЕ МЫ ЧТО-ТО ЗНАЧИМ...»

**АПРЕЛЬСКИЙ ОПЫТ СТАЧЕЧНОГО ДВИЖЕНИЯ УБЕДИЛ РЯДОВЫХ ТРУЖЕНИКОВ, ЧТО ЕСЛИ ОНИ ЕДИНЫ, ТО СПОСОБНЫ ДОСТИЧЬ ПОЛОЖИТЕЛЬНЫХ РЕЗУЛЬТАТОВ. ОДНАКО СТАЧЕЧНЫЙ МЕТОД НА ЭТАПЕ ПЕРЕХОДА К НОВЫМ ЭКОНОМИЧЕСКИМ ОТНОШЕНИЯМ—НЕ ЕДИНСТВЕННЫЙ ПУТЬ.**

—ЯСНО, что в обстановке доверия друг к другу и взаимопонимания удобней искать пути улучшения нашей жизни, — считает председатель стачечного комитета Минского тракторного завода, рабочий кузнечного корпуса Вячеслав Козел. — Однако трудно сохранить здравый смысл и критически относиться к своим действиям, когда наяву беззаконие и вакханалия. Куда ни кинь, всюду клин.

Да, завоеваны определенные социальные льготы. Да, периодически поднимается уровень зарплаты... Но ведь товаров не прибавляется! Продуктов больше не становится! Не может рабочего человека обольщать временное увеличение его заработка за счет банковского кредита. Нам же это и отрабатывать придется.

Грядет безработица, а значит, и массовая нищета. Пора начинать «раскачивать» наш белорусский парламент, пора людям четко и ясно сказать, куда мы идем.

Надо спасать нацию? Так мы готовы!

Надо поднажать в работе, — так мы, пожалуйста. Обеспечьте только тем, с чем работать. Нам сидеть не пристало. Тем паче, что простои не оплачиваются.

Особенно это важно на этапе рыночной экономики и резкого падения жизненного уровня людей труда.

Не от хорошей жизни первой забастовала кузница в апреле прошлого года. Выставили требования: работникам металлургического производства, включая и кузнечный корпус, выплачивать ежегодное вознаграждение за выслугу лет (14 зарплату), обеспечить заводчан рабочей обувью и спецодеждой, установить доплату за питание, увеличить количество дней отпуска и т. д.

Эта идея родилась в дни стачечного подъема, но поначалу воспринималась как нечто абсурдное. Теперь это отражено в колдоговоре.

— Я не сторонник постоянных забастовок или стачек, — продолжает В. Козел. — Надо прежде всего стремиться найти компромиссное решение. Но не худо оставлять за собой и право на забастовку. Как ни странно, в результате противоборства скорее рождается разумный компромисс. Нашли же мы его с профкомом объединения, когда вместе сели за стол переговоров с администрацией.

Пока приходится завоевывать наши права, надо, чтобы рабочий класс действовал настойчиво и целеустремленно. Отдельные члены стачкома поняли, что могут быть битыми и будут терять не только морально, но и материально. Многие сразу откололись. Видимо, не получили того, чего желали. Но костяк «зачинщиков» забастовочного движения пока не слагает своих полномочий, данных им в трудовых коллективах.

...Сгущались сумерки, когда мы вышли из цеха. Я сожалел, что отнял у Вячеслава так много времени, ведь он отработал в первой смене. И, видимо, спешил домой, где ждет его жена Людмила Викторовна —она работает в цехе кабин. Кстати, тесть, теща, два брата жены — все работают на Минском тракторном заводе— семейная трудовая династия.

А мне припомнился еще один апрельский день, но уже 1991 года.

...Колонны рабочих и заводской интеллигенции от главной проходной направлялись к той же площади, носящей тогда имя Ленина.

Шли молча, сосредоточенно. Суровый взгляд людей в рабочих спецовках. На голове черные ленты и такая же траурная повязка на рукаве каждого участника «Чарнобыльскага шляху», как впоследствии получила название такая форма протеста в годовщину аварии на ЧАЭС.

Сорокалетний «бородач» в куртке нараспашку на ступеньках крыльца заводоуправления командовал в рупор:

— Второй механический... приготовиться коллективу ГСКБ.

— Шагом марш, модельный, строительный; первый, второй литейные, транспортный. Во главе подразделения наскоро изготовленные транспаранты и лозунги, выполненные в черном цвете, напоминали о трагедии белорусского народа.

По мнению большинства рабочих и других тружеников Минского тракторного завода, стачки дали свой положительный результат. Люди поняли, что вместе они что-то значат. Что с ними стали считаться, как с реальной силой.

— Это я считаю нашим большим завоеванием, — отметил Вячеслав. — Теперь ясно, что любое повышение цен или иное какое-то антинародное решение правительства так просто не пройдет. Стали с народом в какой-то степени считаться, потому что рабочий класс заявил о себе и дал понять, что способен бороться и отстаивать свои права.

Вячеслава Михайловича занимают и вопросы совершенствования государственной власти Республики Беларусь. До недавнего времени эта тема казалась неприемлемой для рабочего человека. А сегодня она в центре внимания трудовых коллективов, людей разных профессий. Доказательство тому — референдум, за который ратуют тысячи минчан.

— Не понимаю, почему бы не принять к рассмотрению в парламенте проект Закона о выборах, разработанный оппозицией, — сокрушается В. Козел. — Разве будет хуже, если мы будем выбирать в Советы людей бескорыстных, честных, тех, кого хорошо знаем по месту жительства и на производстве, а не каких-то представителей тех или иных партий, группировок, социальных групп.

То, что В. Козел перед титулами никогда не благоговел— знают многие. Известна и его непримиримость в принципиально важных вопросах.

Страница за страницей — складывается жизнь. У Вячеслава Козела была она такая, как у большинства его сверстников. И сейчас, как и прежде, он в гуще людей.

С интересом и долго вели мы беседу. Я удивлялся широте его взглядов и образу мышления.

Работа, семья. Стачки, забастовки... Митинги, протесты... В какой-то мере — это симптомы нашего времени. Когда правительство действует не в интересах людей, когда звено производителей материальных ценностей оказалось в самых низах государственной структуры, когда цены «липовые», а производительность низкая и зарплата не соответствующая жизненным потребностям — человек пробуждается к новому движению. Движению разума и сердца.

Игорь ГОЛОД.

## Зарубежная БелаПАНорама:

**✻ МЭР ГОРОДА Орёл Александр Кисляков издал постановление об усилении борьбы с преступностью. Одна из предложенных мер является, мягко говоря, нетрадиционной: создание специальных конных отрядов милиции для охраны садово-огородных участков горожан.**

**✻ 10 МАЯ в Полтаве возле колокольни Успенского собора прошел митинг, посвященный дню рождения «борца за волю Украины» Симона Петлюры, родившегося в этом городе.**

**✻ В ПРИДНЕСТРОВЬЕ появилось свое радиовещание. Студия образована на базе радиоцентра в Григорипольском районе. Планируется и создание собственного телевидения: более 30 будущих телеработников уже прошли подготовку и обучение в Москве, закуплена аппаратура. Предполагается, что будут транслироваться в основном передачи российского ТВ, но намечено и создание собственных информационных программ.**

**✻ КОМАНДОВАНИЕ 7-й армии Объединенных Вооруженных Сил СНГ опровергло распространяемое средствами массовой информации сообщение азербайджанской стороны об участии подразделений и военной техники этой армии в боевых действиях в Нагорном Карабахе на стороне армянских сил самообороны.**

● У НАШЫХ СУСЕДЗЯЎ

### ГАРБАЧОЎ ГАТОЎ ДАЦЬ ПАКАЗАННІ

**ВІЛЬНЮС. Экс-прэзідэнт былога СССР Міхаіл Гарбачоў «не бачыць праблемы», каб даць паказанні супрацоўнікам Генеральнай пракуратуры Літвы ў справе аб забойствах 13 студзеня 1991 года. Гэта словы з інтэрв'ю Гарбачова буйнейшай штодзённай газеце рэспублікі «Летувас рытас». Раней на такое пажаданне работнікаў літоўскай пракуратуры станоўчага адказу не было. Каменціруючы гэты факт, Старшыня Вярхоўнага Савета Літоўскай Рэспублікі Вітаўтас Ландсбергіс сказаў, што, «можа, гэта новая сітуацыя звязана з адказам на ранейшае маё пісьмо прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына, у якім выказваліся пажаданні на зрухі ў галіне прававаго супрацоўніцтва з тым, каб якія б там ні было путчысты і дзяржаўныя злачынцы не маглі пазбегнуць адказнасці. Ельцын згодзен, што трэба прыняць меры, каб злачынства, калі яно ўчынена, не засталося беспакараным і каб апытанні неабходных па справе асоб былі праведзены да канчатковага падпісання расійска - літоўскага пагаднення аб прававым супрацоўніцтве».**

**Праўда, Ландсбергіс заўважыў, што ў афіцыяльнай перапісцы кіраўнікоў Літвы і Расіі яшчэ канкрэтна не ішла размова аб паказаннях Гарбачова наконт падзей 13 студзеня. Але ні ў кога не ўзнікае сумненняў, што Гарбачоў можа даць па гэтай справе асабліва важныя паказанні, заўважыў Ландсбергіс.**

**У ноч на 13 студзеня 1991 года пракамуністычныя сілы з дапамогай Савецкай Арміі спрабавалі зрабіць дзяржаўны пераварот у Літве. У тую ноч праводзіўся штурм тэлерадыёвежы і будынка рэдакцый тэлебачання, вакол якіх былі мірныя жыхары Літвы. 13 з іх задушаны гусеніцамі танкаў або застрэлены, каля 600 чалавек атрымалі траўмы і раненні.**

### НЕМЦЫ ДАЮЦЬ НЕ ТОЛЬКІ МАРКІ, АЛЕ І ПАРАДЫ

**ТАЛІН. На закупку запчастак да збожжаўборачнай тэхнікі і пасяўных машын, даільных апаратаў і агрэгатаў ахаладжэння малочнай прадукцыі прызначаны ў Эстоніі мільён марак, выдзеленых урадам ФРГ для падтрымання сельскай гаспадаркі Эстонскай Рэспублікі.**

**Аднак частка гэтай сумы — сто тысяч марак — будзе выдзелена хутаранам для падтрымкі індывідуальных гаспадарак. Міністэрства прадуктаў харчавання, сельскай і лясной гаспадаркі ФРГ пры гэтым вырашыла аказаць і метадалагічную дапамогу эстонскім сялянам. Спецыялісты з ФРГ, улічваючы вопыт пераарыентацыі сялян Усходняй Германіі, рэкамендуюць накіраваць сілы на развіццё прыватнага прадпрымальніцтва, але пры гэтым не забываць, што малыя прыватныя фірмы не маюць будучыні і пазбаўлены перспектывы выхаду на сусветны рынак. Яны рэкамендуюць не аддаваць перавагу нейкай адной форме ўласнасці на зямлю. У сельскай гаспадарцы Эстоніі, на іх думку, могуць быць прадстаўлены любыя формы, у тым ліку і акцыянерныя таварыствы, што ўзніклі ў апошнія гады з калгасаў, калі іх дзейнасць паспяховая і прадуктыўная.**

### МУНДЗІРЫ ЦЯПЕР НЕ Ў МОДЗЕ

**ТАЛІН. Пасля ўвядзення кроны расійскім ваеннаслужачым прыйдзецца карміцца з дапамогай камерцыйных здзелак, як сказаў на прэс-канферэнцыі старшыня камітэта па эканамічнай рэформе першы намеснік міністра фінансаў Эстоніі Эн Роазе. Паводле яго слоў, забеспячэнне Эстоніі тэлевізарамі, цукрам і палівам ужо цяпер у немалой ступені знаходзіцца ў руках расійскіх ваеннаслужачых. А многія афіцэры даўно змянілі ваенныя мундзіры на цывільнае адзенне, каб займацца камерцыяй.**

